# БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ ім. ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА



АНТ. ЛУЦКЕВІЧ

# Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча.

Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча паўстаў з прыватнае калекцыі Івана Луцкевіча, якую гэты тварэц беларускага адраджэнскага руху і неўтамімы працаўнік на ніве беларускае архэолёгіі зьбіраў у працягу ўсяго свайго жыцьця—ад трэцяе клясы гімназіі. Ідэяй Ів. Луцкевіча і было стварэньне беларускага нацыянальнага музэю, дзеля чаго—за год да сваей перадчаснай сьмерці - ён і падараваў сваю калекцыю Беларускаму Навуковаму Таварыству. Аднак Таварыства, ня маючы ўласнага памяшчэньня і карыстаючае само з прыватнае кватэры ахвярадаўцы, не магло пераняць фактычна ў свае рукі цэннага дару, вымагаўшага значных матэрыяльных затрат на пераховаваньне калекцыі і ўсыстэматызаваньне яе. Дзеля гэтага ўсе рэчы аставаліся ў кватэры Луцкевічаў у Вільні і толькі пасьля сьмерці ахвярадаўцы —паймення ў 1921 годзе — былі перавезены ў Базыльянскія муры, дзе тагачасныя ўласьнікі гмаху (Праваслаўнае Духавенства) далі бясплатнае памяшчэньне пад арганізацыю ў ім Музэю. Памяшчэньне гэтае, вельмі запушчанае за час нямецкае акупацыі, было даведзена да належнага стану коштам двух сяброў Т-ва: брата ахвярадаўцы, Антона Луцкевіча, і інж. Лявона Дубейкоўскага.

Такім чынам праца ў кірунку ўсыстэматызаваньня і ўпарадкаваньня калекцыі Ів. Луцкевіча была распачата Беларускім Навуковым Таварыствам толькі пасьля 1921 году. З гэнага часу пачынаецца і прыток новых экспонатаў—ці то ахвяраваных прыватнымі асобамі, ці набытых Таварыствам. Аднак, лічба гэткіх экспонатаў, раўнуючы да калекцыі Ів. Луцкевіча, была дужа невялікая, і характар зборкі астаўся ў асноўных рысах сваіх такім жа самым, якім быў за жыцьця Ів. Луцкевіча.

Ів. Луцкевіч, творачы сваю калекцыю, меў на мэце сабраць матэрыялы, якія далі-б магчымасьць вывучэньня матэрыяльнае і духовае культуры Беларускага народу, беларускага мастацтва — галоўным чынам народнага, беларускае гісторыі — перад усім з часоў Вялікага Князьства Літоўскага. Ад часу пераняцьця калекцыі Т-вам вельмі ўзбагаціўся аддзел архіўных матэрыялаў, датыкаючых ваенных і пасьляваенных часоў—часоў дзяржаўнага будаўніцтва Беларускае Народнае Рэспублікі і наступнага пэрыяду—да сягоньняшніх дзён. Узбагацілася таксама і Бібліятэка пры Музэю, абыймаючая друкі ў беларускай мове і працы па беларусазнаўству. Разам з кніжкамі Ів. Луцкевіча (пераважна старадрукі), часткай бібліятэкі Е. Р. Раманава і вялі-

кім кнігазборам Барыса Даніловіча, бібліатэка пры Музэі складаецца з блізу 14 тысяч томаў. У канцы 1932 г. здэпанаваны ў Музэй рад цэнных прадметаў (зброя, партрэты і інш.) з Наваградчыны.

Разгледзім паасобныя аддзелы Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча і стан распрацаваньня іх.

У дагістарычным аддзеле скаталёгаваных экспонатаў ёсьць каля 200. Яны складаюцца з прадметаў, знойдзеных пры раскопках курганоў, робленых як Ів. Луцкевічам, так і іншымі асобамі. Шмат рэчаў паходзіць з раскопак Эўстаха Тышкевіча, робленых па ўсей Беларусі; нажаль, мейсца знаходу точна не паказана. Цікаўныя рэчы, знойдзеныя ў Барысаўшчыне (ваколіцы Полелееўкі) у 1876 годзе, а такжа выкапні Теребенева ў Дзісьненшчыне 1893-4 г.г. З навейшых раскопак цікаўныя выкапні, знойдзеныя ў Мядзёльскай гм. Пастаўскага пав.,



*Адна з саляў Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча.*

і выкапні з ваколіц воз. Нарача. Агулам устаноўлена паходжаньне экспонатаў з 18 паветаў: Віленскага, Вялейскага (цяпер часткова Маладэчанскага), Сьвянцянскага, Лідзкага, Ашмянскага, Дзісьненскага, Пастаўскага, Горадзенскага, Наваградзкага, Нясьвіжскага, Менскага, Барысаўскага, Бабруйскага, Ігуменскага, Рагачоўскага, Чаускага, Сенненскага і Гомельскага. Калі-б удалося точна ўстанавіць мяйсцовасьці, у якіх былі роблены раскопкі гр. Тышкевічам, дык пэўне тэрыторыя, з якой прадстаўлены экспонаты, шмат-бы пашырылася. — Апрача чысьленых урн ручное лепкі і станковае работы, маем розныя прадметы з эпохі палеоліту, нэоліту, бронзавага і жалезнага пэрыадаў, а такжа цікаўныя аздобы з серабра, усялякага роду бусы і т. д.

Вельмі даўных часоў сягае багатая сфрагістычная калекцыя, якая налічывае 103 пячаці. Найстарэйшыя — пячаці на сыгнэтах полацкіх князёў Усяслава (XI ст.) і Барыса (XII ст.). Пячаці гэтыя даюць вычэрпываючы адказ на пытаньне, якога гэрбу ўжывалі полацкія князі—



*ІВАН ЛУЦКЕВІЧ (10. VI. 1881 — 20. VIII. 1919).*

*Рыс. П. Сергіевіч.*

патомкі Уладзімера Кіеўскага. Ня менш цікаўная пячаць, якую літоўскі дасьледчык д-р І. Бассановіч закваліфікаваў, як пячаць Міндаўга,— з Пагоняй пад каралеўскай каронай і нейкімі знакамі, якіх расшыфраваць дагэтуль не ўдалося. Па свайму характару яны напамінаюць знакі, якія сустракаюцца на цэглах і кафлях з разбуранае сьцяны Каложскае царквы ў Горадні. Праца д-ра Бассановіча аб гэтай пячаці была надрукавана ў І кн. „Lietuviu Tauta" і ў расейскай брашуры п. з. „Печати короля Миндовга и вел. князя Кейстута", (Вильна, 1913 г.). Гаворачы аб гэтых памятках старое беларускае і беларуска-літоўскае дзяржаўнасьці, гожа адзначыць і пераховываную ў Беларускім Музэі копію з гэтак-званага «бэрла Гедыміна», на якім, паводле даваенных досьледаў расейскіх вучоных [1]), сьпіральлю выбіты быў залатымі гваздочкамі літоўскі календар. Орыгінал знойдзены быў у зямлі ў 1680 г. над ракою Страваю, ніжэй Кітвішак, у Троцкім павеце, пераховываўся доўгі час у сям'і Сьцяпана Александровіча, каштэляна наваградзкага, пасьля перайшоў у іншыя рукі і ўрэшце загінуў; асталося толькі некалькі копій. — Далей зварачае на сябе ўвагу маестатычная пячаць Яна Собескага (кароль сядзіць на пасадзе). Цікаўныя пячаці манашых ордэнаў, манастыроў, кравецкага цэху (з часоў Стэфана Батуры — 1580 г.), школ, войск Вялікага Князьства Літоўскага, Галоўнага Трыбуналу В. Кн. Літоўскага, 17 уланскага палка з 1812 году (палк. гр. Міхал Тышкевіч), усялякіх беларускіх адраджэнскіх арганізацыяў і установаў грамадзкага і дзяржаўнага характару і г. д. На-жаль, з прычыны цеснаты памяшчэньня Музэю, выстаўлена дзеля агляду толькі невялікая частка пячацяў.




*Пячаткі Полацкіх Князёў XI і XII ст.*

Да пячацяў у пэўнай меры далучаецца калекцыя персьцянёў, часткова з выразанымі на іх пячаткамі. Асабліва цікаўныя сярэднявечныя персьцяні—знакі ўлады (каштэлянаў і інш.).

Калекцыя манэт (сярод якіх на асаблівую ўвагу заслугуе багаты збор манэт Вял. Кн. Літоўскага), а такжа калекцыя мэдаляў дагэтуль не маглі быць выстаўлены з прычыны нястачы мейсца для вітрын і самых вітрын. З апошняе выстаўлены толькі рэдкі экзэмпляр «Зьмеявіка»—бронзавага круглага мэдальёну з XI—XII стагодзьдзя з эмблемамі—з аднаго боку паганскімі, з другога—хрысьціянскімі.

Сярод прадметаў рэлігійнага культу вызначаецца калекцыя старадаўных крыжоў (ад XII ст.), складняў, царкоўных апаратаў, антымінсаў, ікон і абразоў. Вялікім багацьцем адзначаюцца сакосы віленскіх мітрапалітаў XV і XVI стагодзьдзя, розныя касьцельныя апараты і вопраткі. Калекцыя іконографічная прадстаўляе багаты матэрыял дзеля досьледаў над гісторыяй беларускага мастацтва і параўнаньня з расейскай іконографіяй (у Музэі ёсьць іконы Рублёўскае і Строганаўскае школы, Наўгародзкага пісьма і інш.). Побач з чысьленымі іконамі чыста бізантыйскага стылю (пачынаючы ад XIII ст.), бачым

[1]) Гл. стацьцю М. Гусева ў „Извѣст. Имп. Археол. О-ва" т. V стр. 335.

цэлую групу ікон, якія бязумоўна маляваны на Беларусі і прадстаўляюць нязвычайна цікаўны сынтэз бізантыйскіх традыцыяў і заходніх уплываў. Характэрны і чысьленыя каталіцкія абразы мяйсцовае работы. Кідаецца ў вочы сваей высокай мастацкасьцяй абраз сьв. Анупрэя работы Смуглевіча.

Сьвецкае малярства прадстаўлена цэлым радам малюнкаў ведамых краёвых маляроў (той-жа Смуглевіч, Русецкі, Сьленьдзіньскі і інш.) Многа партрэтаў гістарычных асобаў, спэцыяльна зьвязаных з краем. Запачаткавана зьбіраньне і новага беларускага і наагул краёвага ма-



*Сакос XV ст. віленскае работы.*

лярства (Сергіевіч, Драздовіч, Дыдзякас, Варнас і інш.), а такжа сваей і чужой скульптуры (Грубэрскі, Яхімовіч, Крэмень, Арлоўскі). Аднак, даступна для агляду далёка ня ўся гэтая калекцыя, якая ў значнай часьці яшчэ пахавана ў папках (прыкладам калекцыя прац Трутнева і др.).

Недаступна для агляду — усё з тэй жа прычыны цеснаты памяшчэньня—і даволі багатая графіка ў пастаці зарысовак, гравюр, дрэварытаў, літографіяў. Поруч з адбіткамі гравюр на медзі ў Музэі перахоўвуецца калекцыя гравэрскіх блях (89 нумароў) і дрэварытных табліц. Сярод гравэрскіх блях пераважаюць працы віленскіх гравэраў



*Колёрованы дрэварыт з сярэдзіны XVIII ст. работы беларускага майстра Паўлы Комара.*

з першае паловы XIX ст.: Маўрыціус Кармэліта, Ставэцкі, Подолінь-скі, Кіслінг, Эггерфэльдэр, Вэйсс, Больцэвіч, Новіцкі і інш. Некаторыя гравюры маюць паданае месца выпаўненьня Несьвіж, Пінск, Кельмы. XVII стагодзьдзе прадстаўлена Паўлам Флёрыянам Пётровічам (1675 г.) і крыптонімам ТІК (Кельмы 1672). Пётроўскі, Пэрль рэпрэзэнтуюць




*Колёрованы „лубок“ віленскае работы з 1821 году.*

XVIII ст. Уся калекцыя прадстаўляе вельмі цэнны матэрыял дзеля досьледаў над краёвай графікай, і кіраўніцтва Музэю ’праектуе з’арганізаваць выстаўку як гравэрскіх блях, так і вялікае калекцыі эстампаў, як толькі апошнія будуць упарадкаваны.

Асобную групу складаюць беларускія дрэварыты і колёровыя дрэварыты (гэтак-званыя „лубкі“)віленскіх майстроў з XVIII і пачатку

XIX стагодзьдзя. Іх прымітывізм у рысунку і колёрыстыка—нязвычайна цікаўныя. На некаторых надпісы беларускія (Павел Комар — 1750 г.), на другіх — лацінскія (1760), на іншых—польскія (1821). Тут мы ўжо падыходзім да мастацва народнага.

Этнаграфічны аддзел у Музэі на тканіны і вопратку народную небагаты, бо калекцыя апошніх, якая ў 1918 годзе была паслана з Вільні на выстаўку ў Менск, пры адсылцы яе назад у Вільню па дарозе прапала. Захавалася толькі калекцыя старых гарсэцікаў — сялянскіх і мяшчанскіх, сучасныя ўзоры сьвітак, сабраньне пояскоў (адзін дыванік складаецца з 180 паяскоў, з якіх ён сплецены; паходзіць з Ваўкавыскага пав.). Ёсьць і характэрныя гунькі. Багатая зборка зарысовак узораў беларускіх тканін. Але найбольш цэннай зьяў-



*Беларуская народная разьба.*

ляецца калекцыя твораў народных разьбяроў. Нязвычайна характэрныя і цікаўныя з мастацкага боку прымітыўнага тыпу фігуры Хрыста і сьвятых—з дрэва і мэталю. Кідаецца ў вочы даволі вялікая фігура Хрыста з выбіванае меднае, пазалочанае бляхі—з маляваным тварам, рукамі й нагамі (паходзіць з Тургель . Асаблівым хараством адзначаюцца фігуры Хрыста работы нейкага майстра-самавучкі з ваколіц Мядзёльскага возера. Ёсьць экспонаты і з Віленшчыны, і з Навагрудчыны. Для вывучэньня народнае творчасьці--неацэненае і нявыкарыстанае дагэтуль багацьце. — Характэрныя і цікаўныя воты з воску, складаныя ў царкву.

Народная музыка прадстаўлена калекцыяй музыкальных інструмэнтаў: ліра, некалькі тыпаў дуды, цымбалы, трубы пастырскія і рагі ды жалейкі,



*Фігура Хрыста, выкаваная з мядзянае бляхі, залочаная і поліхромованая. З Тургеляў, каля Вільні.*

Гліна, фаянс (віленскі), шкло (Урэчча і інш.)—нячысьленыя, але характэрныя. Цікаўнае люстра з урэцкага шкла —з масонскае лёжы ў Менску. Ёсьць дошкі дзеля друкаваньня ўзорыстага палатна («крашаніны»), якое цяпер ужо перайшло ў забыцьцё; орыгінальны вясельны каравай з зусім выразна адзначанымі сымваламі разродчае сілы (астача даўнага фальлічнага культу) з Ваўкавыскага пав. Узоры хлебаробскіх прыладаў—дапаўняюць этнографіку.

Бытавы аддзел наагул дапаўняюць старадаўныя вопраткі і прыборы да іх (поўны шляхоцкі ўбор—кунтуш, жупан, пояс, боты, шапка), калекцыя слуцкіх паясоў—шаўковых і літых, дываны ( —Тызэнгаўзаўскае фабрыкі, Нясьвіжскае фабрыкі), брокаты, вышыўкі і г. д.

Militaria складаюцца з старадаўнае зброі — панцыры, кальчугі, мячы, шаблі, усялякая стрэльба, конская зброя і сядло; з навейшага часу — мундзіры ўланскія — 17 і 19 палкоў—з 1812 году. Цікаўны меч віленскага ката і прылады да мукаў.

Сярод зарысовак[1]), гравюр і фотографій — вельмі багаты матэрыял да беларускага будаўніцтва—з каменя і з дрэва. Характэрныя блёкі, з якіх быў пабудаваны віленскі замак, ды якія Музэй мае не калькіх тыпаў. Асабліва цікаўныя для вывучэньня старадаўнага беларускага будаўніцтва так-званыя «галосьнікі», якія паходзяць з разваліўшаеся сьцяны Каложскае царквы ў Горадні і служылі ня толькі як рэзонатары, але і дзеля аблягчэньня цяжару сьцен будоўлі.



*Драўляная маляваная фігура Хрыста. Работа селяніна-самавучкі з ваколіц Мядзёльскага возера.*

Багатыя аддзелы рукапісаў і друкаў Музэю.

Рукапісны аддзел дзеліцца на дзьве групы рукапісаў. Адна складаецца з рукапісаў старых, другая—з новых, архіўных матэрыялаў беларускага адраджэнскага руху, дзяржаўнага будаўніцтва і грамадзкага жыцьця наагул.

З рукапісных кніг трэба адзначыць, як найстарэйшы рукапіс, жухавіцкае Эвангельле XIV стагодзьдзя (да вайны перахоўвалася ў царкве ў Жухавічах, у Наваградчыне). Эвангельле мае цікаўныя ілюмінацыі: чатырох эвангелістаў і застаўкі на пачатку кожнага Эвангельля. Формат Эвангельля—¹/₁ ліста. Пятнаццаты век прадстаўлены «Аглашэньнямі» Тодара Студыта. Рукапіс захаваны вельмі добра, пі-

[1]) Сярод зарысовак асаблівую ўвагу зварачаюць на сябе альбомы Я. Драздовіча.

саны поў-уставам, разьмер $^1/_1$ ліста. Як паказвае цікаўная мэтрыка, кніга гэтая пісана нейкім Іванчыкам, служкаю Івана Семеновіча, пісара вялікага князя Аляксандра, у Вільні ў 1476 годзе. Багацейшы рукапіснымі кнігамі XVI век. Тут маем: дужа пекнае Эвангельле з ілюмінацыямі (чатыры эвангелісты і вельмі прыгожыя застаўкі), разьмер $^1/_4$ ліста, паходзячае з Мелішэва, каля Берасьця; Слуцкі Памяньнік з 1517 году (in folio); Дзеяньні Апосталаў з сямейнай хронікай Бунакоў (кальвіністаў) спад Росеняў (на Жмудзі), пісанай у пачатку XVII ст. у беларускай і польскай мове (in folio); Трэбнік з 1545 году, пісаны дзяком Ярмолай у двары Шышкінях «подле места Віленскага за ракою Вельею» для царквы ў Жыровіцах па загаду маршалка



*Жыдоўская бажніца ў Нясьвежы з XVIII ст. у беларускім стылю (згарэла ў 1820 г.). Паводле старое акварэлі.*

Аляксандра Солтана, як сьведчыць мэтрыка на рукапісе, аздобленым дзьвюма прыгожымі застаўкамі (in folio); урэшце, побач з іншымі кірылічнымі рукапісамі таго часу, на ўвагу заслугуе беларускі рукапіс арабскімі літэрамі—гэтак-званы Аль Кітаб (in folio) з Сорак Татар пад Вільняй. Аль Кітаб транскрыбаваны на лацініку ў Пражскім унівэрсытэце стараньнем сябры Бел. Нав. Т-ва д-ра Я. Станкевіча і прадстаўляе вялізарную цэннасьць дзеля вывучэньня беларускае мовы XVI ст. Да цікавейшых рукапісных памятак XVII ст. трэба залічыць Устаў Младзенчаскага Брацтва ў Дзісьне (in follo), а XVIII ст.—тачней: канца яго (а мо й пачатку XIX?) сьпісак хадзіўшага па руках у працягу некалькіх стагодзьдзяў беларускага перакладу Александрыі ды повесьці пра Баву, ня ўтраціўшых, як відаць, сваей цікаўнасьці сярод беларусаў і ў такі позны час.

Багата (хоць яшчэ не апрацаваная поўнасьцю) зборка старадаўных беларускіх грамат прыватнага і дзяржаўнага характару, пачынаючы ад другое паловы XV стагодзьдзя (пэргаманты). І тут найбагацей граматы з XVI стагодзьдзя — *пэргаманты з подпісамі каралёў* і г. д.

.блъ а. і

Вси обыватели великого князства литовского тым одным
правом писаным от нас даным судоны быти мают.

НАпродъ мы господаръ обецуемъ и шлюбуемъ под тою жъ при
сягою которую учинили есмо всимъ обывателемъ всихъ земль
панства нашого Великого Князства Литовского иж всихъ
станов панов радъ духовныхъ и светских панов хоруговныхъ шля
хту места и всихъ подданыхъ нашихъ и всихъ станов в том пан
стве нашом великом князстве литовском и иныхъ всихъ
земль здавна к тому панству прислухаючихъ почонъши от
вышшого стану а до нижшого тыми одными правы нарядити су
ды в том же статуте ниже писаными и от нас даными су
дити и правовати маем. Также чужоземцы заграничники
великого князства литовского приеждчие и иншимъ колвекъ
обычаем прибылые люди тым же правом мают быти су
жоны и иныхъ врадех где хто выступит.

Артыкулъ в. 2

Мы господаръ шлюбуемъ никого не карати на зачное поведанье
хотя бы дотычилося маестату нашого господарского ображоньа

а. аборъ

*1 і 2 артыкулы Статуту Вял. Кн. Літоўскага 1588 г.*

Вельмі цікаўны архіўныя матэрыялы, датыкаючыя дзеяльнасьці і жыцьця Базыльянаў (ад XVI ст.). Наагул, archivalia мала апрацаваныя і могуць яшчэ выкрыць шмат цікаўнага для гісторыкаў, філёлёгаў і іншых дасьледчыкаў.

Больш упарадкаваны новыя archivalia — датычачыя беларускага

руху. Аднак, і іх апісаньне вымагае йшчэ вялікае працы.

Аддзел старадрукаў багаты наагул выданьнямі краёвых друкарняў — у першы чарод беларускімі. З краёвых друкаў ёсьць кніжкі, друкаваныя ў Вільні, Еўі, Лоску ( — вельмі рэдкі друк), Горадні, Супрасьлі, Семятычах („пакаёвая друкарня“), Нясьвіжу, Слуцку, Полацку, Магілёве, Кутэйне і інш.

З замежных старадрукаў найцікавейшыя: „Трыодь Цветная“, друкаваная ў Кракаве у Швайпольта Фіоля ў 1491 г. па загаду Казіміра Ягеллона; Біблія д-ра Францішка Скарыны, друкаваная ў Празе ў 1517 годзе (частка); першы маскоўскі друк Пётры Мсьціслаўца і Івана Фёдарава з 1564 году («Часаслоў») і інш. З краёвых — першае друкаванае выданьне Літоўскага Статуту ў беларускай мове (друкарня Мамонічаў у Вільні—1588 г.); віленскі-ж друк «Казаніе Кирила» з 1596 г.; «Учительное Евангеліе» 1618 году з друкарні ў Еўі; Повесьць пра Варлаама і Іоасафа з Кутэйнскае друкарні (1637 г.) — ды шмат іншых, вельмі цікаўных дзеля дасьледчыкаў старое беларускае літэратурнае мовы XVI і XVII стагодзьдзяў.

З больш новых друкаў у беларускай мове заслугуюць на ўвагу першыя ластаўкі адраджэнскага руху з XIX стагодзьдзя: А. Рыпінскага «Białoruś» (Парыж, 1840), зборнікі песьняў Яна Чачота, Беларускі Катахізм з 1835 году, першыя выданьні твораў Дунін-Марцінкевіча і Багушэвіча (апошняга—загранічныя выданьні), рэдкія брашуры палітычнага характару (Драгоманава «Пра беднасьць та багацтво», Жэнэва 1881), экзэмпляр падпольнае часопісі беларусаў-народавольцаў у расейскай мове «Гомон» з 1884 г. (№ 2), друкі з пачатку XX стагодзьдзя, камплекты першых беларускіх газэт — «Нашае Долі» і «Нашае Нівы» і г. д. Наагул, у Музэі сабраны гадавікі выходзіўшых у беларускай мове часопісаў і кніжак усялякага зьместу.

Пакольку кнігазбор Івана Луцкевіча і частка кнігазбору Раманава—у адносінах да сучасных друкаў—маюць асаблівую вагу дзеля беларусазнаўства, пастольку кнігазбор Даніловіча багаты кнігамі агульна-навуковага характару. Асабліва цэнная зборка так-званых «таўстых» журналаў расейскіх, выходзіўшых у працягу некалькіх дзесяткоў гадоў. Тут—нязвычайна багаты матэрыял дзеля вывучэньня грамадзкага жыцьця і грамадзкіх настрояў у даваеннай Расеі.

Кіраўніцтва Музэем ляжыць на абавязку Музэйнае Рады, працуючае, як секцыя Бел. Нав. Т-ва. Музэйная Рада складаецца з трох асоб: дырэктара Музэю (А. Луцкевіч), бібліатэкара (Ул. Самойла) і скарбніка Т-ва (інж. А. Нэканда-Трэпка). Беспасрэдна працуюць у Музэі толькі дзьве асобы—гр. гр. Луцкевіч і Самойла, дзеля чаго праца ня можа разьвівацца ў належным тэмпе. Другая прычына павольнасьці музэйнае працы — цесната памяшчэньня Музэю і нястача грошы на неабходныя інвэстыцыі, перад усім — габлёты, шкляныя шафы і г. д. Наагул, бяз сталага, забясьпечанага на доўгія гады і адпаведна абшырнага ўласнага памяшчэньня справа належнага разьвіцьця Музэю і поўнага выкарыстаньня сабраных у ім скарбаў ня можа быць позытыўна разьвязана.

---

